

*З родным словам кроў не стыне...*
*Алесь Бабаед*

# КАРДОН

**№10 травень 2000**

Інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства беларускай мовы"

## СТАЯЦЬ АБЕЛІСКІ



Стаяць абеліскі ля самай дарогі:
Схілілі салдаты галовы да долу.
Маўкліва яны пазіраюць пад ногі.
І ціш, і трывожна чамусьці наўкола.

Тут стынуць пад ветрам бярозы, рабіны,
У шэрага неба заплюшчаны вочы.
Адны абеліскі, салдаты Радзімы,
Стаяць бы на варце і ўдзень, і ўночы.

Прайшло многа часу з пары той
далёкай,
Калі яны ў бой свой апошні ўступілі...
Стаяць абеліскі і столькі папроку
У позірку іх скамянелым, застылым.

І столькі трывогі, стамлёнасці, болю -
Заплакала нават трава ля падножжа.
Не чулі жаданае: "Усё! Пе-ра-мо-га!!!".
Не бачылі майскі салют пераможны.
Стаяць абеліскі...

***Г. Станкевіч***

## БАЦЬКОЎСКАЯ МОВА

Бацькоўская родная мова,
У кожнага ты свая.
Жыцця і палёту аснова,
Ты песня і думка мая.

На ёй я вучуся ў школе,
І вершы на ёй я пішу,
Яе не забуду ніколі,
Яна мне запала ў душу.

Яна для мяне адзіная,
Святая і непаўторная,-
Прывабная і незабыўная,-
У заўтра дарога торная.

Ты радасць і сум майго сэрца,
Сакрэт, не адкрыты нікім.
О, мова ! Бацькоўская мова,
Заўсёды ты ў сэрцы маім !

***ЛІПАВА ТАНЯ***
*вучаніца Свячанскай школы*

# УСЕБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД

У лютым шэраг прадстаўнікоў інтэлігенцыі Беларусі, сярод якіх такія вядомыя і паважаныя людзі, як Рыгор Барадулін, Радзім Гарэцкі, Янка Брыль, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Стэфанія Станюта, Аляксей Дудараў, Уладзімір Арлоў і іншыя, выступілі з прапановай правесці ў 2000 годзе Усебеларускі з'езд, каб заявіць усяму свету, што дзяржаўнасць і дабрабыт Беларусі з'яўляюцца найвышэйшымі каштоўнасцямі. Яны заклікалі ўсе здаровыя сілы грамадства падтрымаць ідэю з'езда ў абарону незалежнасці роднай дзяржавы. У падтрымку ідэі з'езда выказаліся розныя партыі і грамадскія арганізацыі. Быў утвораны аргкамітэт па правядзенню з'езда, акрэслены ўмовы вылучэння дэлегатаў і мяркуемая дата правядзення з'езда.

Пачалося вылучэнне дэлегатаў . Адным з першых дэлегатаў стаў наш зямляк Анатоль Гнеўка, ветэран Узброеных сіл, старшыня абласнога грамадскага аб'яднання "Чарнобыль-дапамога", які быў абраны на мітынгу 26 красавіка ў Віцебску. Тры дэлегаты будуць вылучаны і ад нашага раёна.

Усебеларускі з'езд – народная ініцыятыва. Акт незалежнасці, які будзе прыняты на з'ездзе, павінен яшчэ раз абвясціць усяму свету права і жаданне нашага народа мець сваю самастойную дзяржаву. Час брацца за розум. Альбо мы пачнем усур'ёз абсталёўваць свой беларускі дом, альбо пакорліва пабрыдзём па свеце бяздомнымі жабракамі. Ад нас ад усіх сёння залежыць будучыня Беларусі.

"Бог даў нам нашу мілую азёрную і лясную зямлю ў цэнтры Еўропы. Нашы продкі сваім розумам і мужнасцю стварылі на ёй шматвяковую самабытную гісторыю. Мы ніколі і нікому не пагражалі ні мячом, ні агнём. Мы цярпліва пераносілі чужацкія набегі і крывавыя войны. І мы не хочам быць часткай чужой дзяржавы, не хочам жыць у прыбудове да суседскага дома. Мы хочам мець уласную краіну, у якой пачуваць сябе гаспадарамі, а не малодшымі сваякамі. Не было, няма і не будзе ў гісторыі адной дзяржавы з двума суверэнітэтамі. Мы нікому не дамо гандляваць Бацькаўшчынай." – Гэта пранікнёныя словы Генадзя Бураўкіна, аднаго з сустаршынь аргкамітэта з'езда.

***Я. Мірон***

## СУД НАД СУМЛЕННЕМ

Скончыўся ганебны працэс над былым прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь Міхаілам Чыгіром. Напярэдадні лістападаўскага рэферэндуму 1996 года М. Чыгір выказаў нязгоду з палітыкай, праводзімай прэзідэнтам і выйшаў з урада. Ён адразу папоўніў шэрагі апазіцыі і асабістых ворагаў прэзідэнта. Пасля гэтага месца ў Беларусі былому прэм'еру не знайшлося і ён вымушаны быў працаўладкавацца ў Маскве. Але калі апазіцыя пачала ў адпаведнасці з Канстытуцыяй 1994 года падрыхтоўку да прэзідэнцкіх выбараў М. Чыгір зрабіў другі важны грамадзянскі ўчынак: кінуў выгаднае месца працы ў Маскве і даў згоду балатавацца кандыдатам у прэзідэнты. Менавіта гэта, а не нейкія там парушэнні у час кіравання ўрадам, і стала прычынай яго арышту.

Папулярнасць і аўтарытэт, заснаваныя на асабістых якасцях М. Чыгіра, давалі падставу спадзявацца, што ён здолее кансалідаваць грамадства на ідэі адраджэння Беларусі. Пасля васьмі месяцаў знаходжання за кратамі, дзякуючы падтрымцы міжнароднай супольнасці быў выпушчаны да суда. Якія грозныя абвінавачванні яму былі прад'яўлены! Але ў час разгляду яны лопаліся, як мыльныя бурбалкі, бо на скамейцы падсудных сядзеў не злодзей, а сумленны чалавак, якога змусілі даказваць сваю невіноўнасць.

Беларуская Феміда, насуперак усім фактам і доказам, прзначыла прысуд: "тры гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на два гады і пазбаўленнем права яшчэ тры гады займаць кіруючыя пасады". Такім чынам перспектыўны палітык, які займае адін з першых радкоў у спісе палітычных лідэраў Беларусі, на восем гадоў пазбаўлены палітычнай свабоды. " Ганьба!"- такая была рэакцыя на абвешчаны прысуд у зале паседжанняў суда. Цяпер М. Чыгір не зможа удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах, якія ў рэшце рэшт павінны адбыцца, калі не будуць перанесены яшчэ раз новым рэферэндумам.

Як і большасць сапраўдных грамадзян мы разумеем надуманасць абвінавачванняў і выказваем сваю падтрымку М. Чыгіру, які ўжо падаў касацыйную скаргу ў Вярхоўны суд на прысуд, вынесены Мінскім гарадскім судом.

Паважаны Міхаіл Мікалаевіч, не здавайцеся! Дабро павінна перамагчы зло.

***Г. Станкевіч***

# ГАНЕБНЫЯ УГОДКІ

*Спаўняюцца ганебныя угодкі травеньскага рэферэндуму, маніпулюючы якім улады растапталі нацыянальную сімволіку (герб і сцяг) і асудзілі на пакутнае гібенне беларускую мову – мову карэннага насельніцтва краіны.*

Сумленныя дзеці Бацькаўшчыны крыкам крычалі: нельга гэтага рабіць! Але хто іх мог пачуць. Быў узяты курс на поўнае выцясненне беларускай мовы з грамадскага ўжытку, курс на інтэнсіўную русіфікацыю, а урэшце – на асіміляцыю беларусаў як этнасу, на ліквідацыю беларускай нацыі.

З таго часу прайшло пяць гадоў. Яны паказалі адно: адразу ж пасля рэферэндуму пачаўся апантаны, раз'юшаны наступ на тыя парасткі свабоды, што былі здабыты. Асабліва на першыя канстытуцыйныя заваёвы нашай роднай беларускай мовы. Сёння ён абярнуўся ў нечуваны разгул антыбеларускасці на дзяржаўным узроўні. Ніколі – нават у сталінска-берыеўскія часы – не было такога франтальнага і такога дзікага дратавання беларускага слова, як сёння. Як перад скананнем ці перад пагібеллю ўсё роўна. Можа і перад пагібеллю. Але беларускі народ гінуць і сыходзіць з гістарычнай арэны не збіраецца. Пераканаўчае сведчанне гэтага – творчасць яго таленавітых сыноў і дачок: пісьменнікаў, мастакоў, навукоўцаў. У нацыянальна свядомай інтэлігенцыі няма іншага выбару, як працаваць з думай пра Беларусь, - свабодную, незалежную дэмакратычную Беларусь. Працаваць з верай у тыя высакародныя грамадскія ідэалы, якія клікалі наш народ на першы Ўсебеларускі з'езд у 1917-м і абуджаюць і клічуць сёння. Усё сумленнае, усё добрае, усё чалавеча-шчырае, што ёсць на нашай зямлі, ідзе і пойдзе за гэтымі ідэаламі. Абавязкова! Не можам жа мы так бяздарна распарадзіцца сваім лёсам, лёсам сваёй краіны, каб усё тое, за што змагаліся дзесяткі пакаленняў, за што паклалі галовы тысячы самаадданых сыноў і дачок Бацькаўшчыны, - каб усё тое сёння ганебна пайшло прахам. Беларуская інтэлігенцыя свой выбар зрабіла – павароту назад не будзе. Толькі звыродныя запраданцы і нікчэмныя, ніцыя духам завугольныя патулякі застаюцца сёння ўбаку ад вялікай справы нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі, ад неадольнага поступу самасцьвярджэння беларускае нацыі. Прыйдзе час – і вынікі травеньскай авантуры , як і ўсіх іншых авантур, беларускі народ адменіць, скасуе, адрыне і змяце, як прыкрае і ганебнае непатрэбства. І ўсталюе тыя законы, што будуць працаваць на росквіт Беларусі беларускай, бо ніякай іншай Беларусі не можа быць.

***Ніл Гілевіч***

## ЧАРОЎНЫЯ СЛОВЫ

Пры сустрэчы людзі вітаюць адзін аднаго словамі: "Добры дзень!" Але мала хто задумваецца над сэнсам гэтых слоў. Горш таго, не ўсе іх вымаўляюць, некаторыя прасунуцца моўчкі, лянуючыся рот адчыніць, як напісаў нехта з паэтаў: " Свіння свінню сустрэне – рохне, а чалавек маўчком ідзе".

Раніцой, калі я іду ў школу, на вуліцы шмат людзей. І вось нехта знаёмы кажа: "Добры дзень, Насця!". І я адразу заўважаю, што дзень сапраўды добры. Сонейка ўсміхаецца, дрэвы нашэптваюць ласкавыя словы, усё навокал прыгожае, радаснае. І настрой таксама становіцца больш радасным. Пасля такіх слоў і ўвесь дзень пройдзе добра, весела і гора абміне і бяда пройдзе.

Добры дзень вам, добрыя людзі!

***Насця Сясіцкая,***
Член гуртка "Юны журналіст"
Бешанковіцкай школы № 1

# БЕШАНКОВІЦКІ ДОМ РАМЁСТВАЎ



Ганна Гудоўская і Алеўціна Зайцава



Вырабы з кірамікі

Народная творчасць – глеба і аснова нацыянальнай культуры. Карані яе ў глыбокай старажытнасці. Так, на тарфяніку каля вёскі Асавец, дзе былі паселішчы старажытнага чалавека, датуемыя прыкладна 4-м тысячагоддзем да нашай эры, пры раскопках знойдзены не толькі прылады для палявання, рыбнай лоўлі і побытавыя рэчы, але і арнаментаваны гліняны посуд . Далёкі наш продак хацеў зрабіць свае вырабы не толькі зручнымі, але і прыгожымі. Ішоў час, людзі стараліся упрыгожыць свой побыт, зрабіць радаснай працу, напоўніць сваё жыццё прыгажосцю. Гісторыя не заўсёды захоўвае імёны майстроў, але рэчы, зробленыя іх умелымі рукамі можна ўбачыць у музеях і на выставах, у куфэрках бабуль і ў звычайных вясковых хатах.

Нацыянальна-культурнае адраджэнне Беларусі абудзіла цікавасць да народных рамёстваў, якія ў беларусаў, як і ў іншых народаў, самабытныя і адметныя. На хвалі нацыянальнага адраджэння пачатку 90-х гадоў і быў створаны Бешанковіцкі Дом рамёстваў. Вельмі добра, што знайшліся сярод моладзі энтузіясты адраджэння народных рамёстваў, прадаўжальнікі справы народных умельцаў.

На вуліцы Садовай каля стадыёна стаіць невялікі аднапавярховы будынак, звонку – звычайны дом. Але ўсярэдзіне ён запоўнены дзівосамі. Вочы разбягаюцца ад разнастайных вырабаў з керамікі і саломкі, ад стракатых тканевых узораў. Хачу пазнаёміць чытача з тымі, хто стварыў гэту прыгажосць.

Узначальвае Дом рамёстваў Вольга Леанідаўна Берасцень. Выпускніца ,тэхналагічнага тэхнікума, яна зараз працягвае вучыцца завочна ў тэхналагічным інстытуце. Вольга Леанідаўна не толькі сама майструе вырабы з саломкі, але і вучыць гэтай справе дзяцей і дарослых. Зараз майстэрства саломапляцення асвойвае група дарослых, сярод якіх вясковыя бібліятэкары, кіраўнікі і супрацоўнікі Дамоў культуры. Дарэчы, азы рамёстваў тут дапамогуць асвоіць любому, хто пажадае.

Цэлыя зараснікі саламяных кветак упрыгожваюць кабінет Вольгі Леанідаўны. Тут і ружы, і рамонкі, і насценныя пано, і нават карона, якую не сорамна было б надзець каралеве прыгажосці. Але навошта тая каралева? Калі я папрасіла прымерыць карону майстра Ганну Гудоўскую, то яна адразу і ператварылася ў каралеву ці прынцэсу.

Ганна Мікалаеўна - ганчар-кераміст. Скончыла Бешанковіцкую школу мастацтваў, з удзячнасцю ўспамінае Івана Іванавіча Лагунова, які даў першы штуршок развіццю яе мастацкага таленту. Потым вучылася ў Віцебскім вышэйшым вучылішчы народных раместваў, працавала на фабрыцы мастацкіх вырабаў. А ў 1997 годзе парайшла ў Дом рамёстваў. Тое, што робяць яе далікатныя пальцы, цяжка апісаць, гэта трэба ўбачыць: разнастайныя вазы, вазоны і падвясныя кашпо для кветак, гліняныя цацкі і упрыгожванні. Такія рэчы нададуць адметны выгляд любой кватэры, ці стануць добрым падарункам . Дарэчы, у час Славянскага базару ў Віцебску керамічныя вырабы карысталіся вялікім попытам. Выстаўляліся яны і на розных выставах. Ганна мае шматлікія граматы і дыпломы. А галоўнае – яна займаецца любімай справай, яе вырабы радуюць людзей, узнімаюць настрой, упрыгожваюць жыццё. Шкада толькі, што не часта можна іх убачыць у Бешанковічах і набыць. Яшчэ Ганна любіць маляваць. Яна рабіла насценны роспіс у дзіцячым аддзяленні райбальніцы.

***Працяг на 4 стар.***





**Саламяныя дзівосы.**

# БЕШАНКОВІЦКІ ДОМ РАМЁСТВАЎ



Галіна Ханяк

Галіна Ханяк – майстар па шыццю. Стракатыя кавалачкі тканіны ў яе руках утвараюць цудоўныя ўзоры і ўпрыгожваюць традыцыйныя пакрывалы і коўдры, вялікія насценныя дываны і маленькія, "пад ногі". Яе коўдры і лялькі ў нацыянальных касцюмах выстаўляліся на выставе "Беларусь мая песня" у Віцебску і ў Мінску. Для сябе Галіна таксама любіць маляваць і ляпіць з гліны. А для душы ў яе ёсць самае запаветнае захапленне: паэзія. Галіна піша цудоўныя, шчырыя, пранікнёныя вершы з глыбокім сэнсам, прасякнутыя любоўю да родных мясцін на Лепельшчыне, да маці, да ўсяго светлага і ўзвышанага. Вершы такія дасканалыя, што іх нельга назваць спробай пяра, хоць ні адзін з іх яшчэ нідзе не быў надрукаваны. Мне вельмі прыемна пазнаёміць чытача з новым мясцовым паэтам і прапанаваць яе вершы. А ў адзін з наступных нумароў, спадзяюся, Галіна падрыхтуе цэлую новую падборку.

Ёсць у Доме рамёстваў і майстар па ткацтву – Аляўціна Зайцава. Яна працуе першы год, пасля заканчэння таго ж вучылішча мастацкіх рамёстваў у Віцебску, робіць уручную паясы і габелены.

Дзяўчаты паскардзіліся на адсутнасць неабходных для іх працы матэрыялаў і абсталявання. У аддзеле культуры няма грошай каб набыць ніткі, тканіну, новую печку для абпальвання керамічных вырабаў, ганчарны круг. Шмат чаго не хапае, працаваць даводзіцца ледзь не на адным энтузіязме. А справа добрая, традыцыйныя рамёствы трэба захоўваць і адраджаць. Да заняткаў народнымі прамысламі цягнуцца дзеці. Пры мне вучаніца 4 класа Аня Бурнэйка па майстэрску выстрочвала нешта з кавалачкаў тканіны, зрэдку пытаючыся ў Галіны, як лепш зрабіць. І да канца нашай размовы ўжо можна было ўбачыць вынік яе намаганняў – чырвоны перчык. Тое, што падрастаючае пакаленне імкнецца авалодаць сакрэтамі традыцыйнага народнага майстэрства, дае падставу спадзявацца, што выпрацаваная мінулымі пакаленнямі і закладзеная ў гены народа культура не загіне.

Хутка Дом рамёстваў пераедзе ў адзін з будынкаў былой першай школы. Зараз там ідзе рамонт. Ужо паднавілі падлогу, абабілі сцены ільнянай тканінай і дошкамі. У новых памяшканнях плануецца размясціць ганчарную і ткацкую майстэрні, якім вельмі цесна ў старым памяшканні. Хочуць дзяўчаты мець свой магазін, каб жадаючыя маглі купіць каларытныя мастацкія вырабы, але на гэтым шляху шмат перашкод. А мы пажадаем ім поспехаў у іх карыснай і неабходнай справе і будзем спадзявацца, што вынікі іх працы зможам убачыць на ярмарках і святочных мерапрыемствах.

***В. Гракун***

## Вершы Галіны Ханяк

* * *

Як добра быць самім сабой
І ні ад кога не залежыць.
Душа сама сябе залечыць
І закалыша ў сэрцы боль.

Як лёгка быць самім сабой.
Душа ў прастор блакіту рвецца.
На покліч мігам адгукнецца
І боль той страшны больш не боль.

Як цяжка быць самім сабой.
Грахі зямныя шлейф трымаюць.
Яны ўзняцца не пускаюць
Над тлумам і над мітуснёй.

Як трэба быць самім сабой…

* * *

Я ступаю на гэту зямлю,
Каб прачнуцца ад дзікага сну.
Каб малітву ўспомніць сваю
І адчуць'прыгажосць і вясну.

Я іду па траве басанож,
Дзмухаўцы , бы сняжынкі, лаўлю.
Хоць і горка бывае, усё ж
Гэта светлае месца люблю.

Тут зямля мяне песціць цяплом,
Птушкі тут мне аб шчасці пяюць.
І за злосць я аддзячу дабром,
Бо даўгі я павінна вярнуць.

* * *

Колькі год я з зямлёю ўкруг сонца кручуся,
Колькі год я тапчуся па гэтай зямлі,
І тым месцам, дзе маці дала мне жыццё ганаруся,
Спачываюць дзяды мае тут, тут мае карані.

Салаўі тут вясною пяюць так прыгожа,
Вербы туляцца долу ў празрыстай красе.
Тут зязюля табе на гады паваражыць,
Тут абмыеш душу ты ў крыштальнай расе.

Тут залечыш ты крылы, што ў свеце табе надламалі,
І падымешся ўвысь, давяраючы ўзлёту душы.
Пазавуць за сабой таямнічыя зорныя далі,
Птушка шчасця ўсклікне ў світальнай цішы.

Не, не дзіва, што гэта зямля так прыцягвае,
Што яна не забылася, помніць і любіць цябе.
Толькі тут жыве шчасце такое сапраўднае,
Што шукай - не шукай, а другое не знойдзеш нідзе.



# СЦЯГ

ʌат разоў зняслаўлялі яго
І лічылі памерлым, аджыўшым,
Ды крывёю на белі снягоў
Узнімаўся ён, бляск не згубіўшы.

Каля Оршы, Смаленска пад ім
Безліч коп'яў зламана і пікаў.
Ды замоўчваюць тыя баі
Летапісцы з маскоўскай прапіскай.

Нестае апраўданняў у іх
За стагоддзі тых войнаў праклятых:
Вынішчалі пад корань усіх –
І жанчын, і дзяцей-немаўлятак.*

Не змаглі ні царква, ні кляштар
Родны край засланіць ад пажараў
Быў пашыты нам іншы штандар,
Чый адбітак і сёння ўладарыць.

дрыдзіў ён насілле і страх
І пад ценем яго тройчы клятым
Праглынуў столькі лёсаў ГУЛаг,
Расцвілі не адны Курапаты.

І заўсёды пад сімвалам тым
Халуі-запраданцы ў пашане,
Ды "заслугі" прыпомняцца ім
Калі сцяг наш спрадвечны паўстане.

Стужкай барвы на белі снягоў
Ён узнімецца бляск не згубіўшы.
Не бракуйце дарэмна яго,
Не лічыце дачасна аджыўшым !

**У выніку толькі аднаго з нападаў Расіі за 1654-1667 гады насельніцтва Беларусі скарацілася больш чым напалову. А ў Віцебскім і Полацкім ваяводствах было знішчана адпаведна 61,7 і 72% жыхароў.*

*Г. Станкевіч*

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

# АДКУЛЬ НАШ РОД

**Паводле кніг Уладзіміра Арлова**

## *КУДЫ ІМЧЫЦЬ "ПАГОНЯ"*

Гербы пачалі з'яўляцца ў X – XIII стагоддзях. Патрэбна было ўжываць сімвалы, якія б адрознівалі пэўныя роды, гарады, княствы. Гербы, як і гістарычныя назвы, - рэч незнішчальная. Старажытныя гербы прыцягваюць увагу шырокіх колаў аматараў гісторыі і краязнаўцаў. Старажытны герб нашай краіны – гэта конны рыцар з узнятым над галавой мячом. Ён называецца "Пагоня". Адкуль такая назва?

Багатая беларуская зямля здаўна прыцягвала прагныя позіркі чужынцаў. Яны часта нападалі на нашых продкаў.150 разоў урываліся сюды крыжакі. Каля сотні набегаў зрабілі татарскія атрады. Шмат гора прынеслі войскі рускіх князёў і цароў, якія лютавалі часам страшней за татараў. Каб абараніцца і выжыць трэба было заўсёды быць напагатове. Яшчэ з часоў Усяслава Чарадзея існаваў такі звычай: пасля нападу на паселішча ўсе мужчыны, што маглі трымаць зброю конна ці пешкі даганялі ворага, каб вызваліць палонных і паквітацца за забітых. Гэты звычай называўся пагоняй. У Вялікім княстве Літоўскім ён стаў законам.

У тыя далёкія часы і пачалі маляваць "Пагоню" – узброенага воіна на баявым кані, што імчыць на бітву за родную зямлю. Сем з лішнім стагоддзяў таму апісанне "Пагоні" з'явілася ў летапісах. У левай руцэ вершнік трымаў шчыт, пазней на шчыце з'явіўся шасціканцовы крыж. "Пагоню" выразалі на пячатках. Герб упрыгожваў гарадскія брамы і вежы, а таксама сцягі.

Колеры гербаў выбіраліся не выпадкова, яны таксама сімвалічныя. Герб старажытнай беларускай дзяржавы выглядаў як чырвоны шчыт з белай або срэбнай выяваю рыцара. Крыж на шчыце жоўты або залаты.

Чырвоны колер нашы продкі лічылі самым высакародным. Ён азначаў агонь, мужнасць, смеласць. Белы колер – гэта чысціня, дабро, незалежнасць. Белы і чырвоны колер нашы продкі асабліва любілі. Ён і ва узорах ручнікоў, і ў народным адзенні. У казках асілкі едуць абавязкова на белым кані. Белы конь – гэта вобраз сілы, красы і здатнасці, адраджэння і уваскрэсення да новага жыцця. Воін на белым кані азначае перамогу. Белы колер надзвычай пашыраны на Беларусі, магчыма адсюль і яе назва.

Сцяг звычайна паўтарае колеры герба. Гербавы малюнак размяшчаецца на шчыце. Колер малюнка і робіцца галоўным колерам сцяга, а колер шчыта – дадатковым. Белы колер рыцара і чырвоны шчыт і утварылі беларускі бел-чырвона-белы сцяг. Ягоныя колеры можна убачыць і на адзенні святароў. Тут белы колер азначае чыстую душу чалавека, чырвоны кажа пра пакуты і смерць Хрыста.

З таго часу, як рускія цары, а потым бальшавікі, захапілі Беларусь, "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг былі пад забаронай. Захопнікі хацелі, каб мы забылі нашу слаўную гісторыю. Людзей, якія не ведаюць свайго мінулага лягчэй прыгнятаць і рабаваць.

Быў час, калі за малюнак "Пагоні" маглі кінуць чалавека ў турму або за калючы лагерны дрот. Нам навязалі іншыя герб і сцяг, аднак беларусы берaглі памяць пра свае, сапраўдныя. У 1991 годзе Беларусь абвясціла ўсяму свету, што яна вярнула сваю незалежнасць. "Пагоня" і старажытны сцяг зноў зрабіліся дзяржаўнымі. Бел-чырвона-белыя сцягі лунaлі над Домам урада ў Менску, над кожным беларускім горадам, упрыгожвалі вуліцы ў час святаў.

Пасля праведзенага ў маі 1995 года рэферэндуму афіцыйныя герб і сцяг Рэспублікі Беларусь зменены. Герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг зноў забаронены

# ШПАЖНІК ( гладыёлус )



Вельмі рэдкі еўрапейскі рэліктавы від. Па Беларусі праходзіць усходняя граніца арэалу распаўсюджвання. Расце на нізінных і заліўных лугах, балотах, у поймах рэк. Скарачаецца у выніку гаспадарчага асваення зямель і збору цвітучых раслін.

Шпажнік – шматгадовая клубнецыбулевая расліна. Вышыня 50-70 см. Кветкі пурпурна-ліловага колеру, буйныя, на высокіх тонкіх сцяблінах. Цвіце ў чэрвені-ліпені. Размнажаецца насеннем і вегетатыўна (дзеткамі). Лісце вузкае, дліннае, мечападобнае ( па латыні "гладыус" – меч). Плод – каробачка, якая растрэскваецца і насенне разлятаецца ва ўсе бакі.

Расліна вельмі прыгожая, мае шмат садовых форм ( хто ж не любіць гладыёлусы?). Для зберажэння віду шпажнік неабходна ахоўваць, ствараць заказнікі ў месцах распаўсюджвання, вырошчваць і размнажаць.

У нашым раёне дзікі гладыёлус сустракаецца рэдка, не ўсе яго нават бачылі. Мне пашчасціла сустрэць некалькі раслін каля вёскі Дубкі, ведаю і яшчэ некалькі такіх месцаў. Спадзяюся, што ні ў каго са знайшоўшых гэты цуд прыроды не падымецца рука, каб сарваць яго прывабную кветку.

*Гэта было*

## СУСЕДЗІ

Жылі-былі па суседству два гаспадары: настаўнік мясцовай васьмігодкі Генадзь Мікалаевіч і калгаснік Паша. Генадзь Мікалаевіч – чалавек ашчадны, беражлівы, капейкі дарэмна не патраціць. Здолеў-такі напрыканцы самага што ні ёсць развітога сацыялізму «Масквіч» сабе купіць і цяпер зарульвае , куды пажадае. Паша, яго сусед, не такі ашчадлівы, але душа-чалавек. Па святах цьвярозым яго не убачыш. Завідуе трохі Генадзю Мікалаевічі, але толькі па будніх днях.

Аднойчы сустракае сустракае Паша свайго суседа і з радаснай усмешкай на твары паведамляе навіну: - "Чуў? Цана на бензін угору скочыла! Цяпер ездзіць не будзеш." Сказаў гэта і адыйшоў задаволены.А Генадзь Мікалаевіч патыліцу чухае: - "Дачакаўся ад улады падарунка". Цэны тады ірванулі ўверх упершыню. Хто ж ведаў, што праз некалькі дзён яны і на гарэлку ўзнімуцца.

Зноў сустрэліся суседзі. Цяпер ужо Генадзь Мікалаевіч адпомсціў: - "Паша, гарэлка учора падаражэла амаль у два разы ! Напэўна цяпер ты піць кінеш !"

Многа вады ўцякло з той пары. Генадзь Мікалаевіч не толькі ездзіць, як і ездзіў, на сваёй машыне, але і хату сабе новую пабудаваў. А Паша п'е, як і піў. Цяпер ужо і па буднях.



Быў у нашым калгасе шафёр, у гадах ужо дзядзька, вельмі старанны. Можа і выпіваў часам, але п'яным я яго ніколі не бачыў. Ці то ад прыроды, ці ад пастаяннай працы пад сонцам і ветрам ягоны твар быў заўсёды барвова-чырвоны. Мясцовыя жыхары прывыклі і не звярталі на тое ніякай увагі. Але за межамі калгаса здараліс непрыемнасці.

Паехаў той шафёр у Віцебск пасля нейкага свята. На пасту ДАІ яго спыніў малады сяржант. Убачыўшы чырвоны твар вадзіцеля адразу западозрыў нядобрае. Каб бліжэй падступіцца спачатку запатрабаваў дакументы. Глядзіць іх, а сам прынюхваецца і прынюхваецца ў чаканні, што вецер данясе знаёмы пах. Але, колькі ні круціўся, нічога не ўнюхаў. Каб праясніць сітуацыю, спытаў напрост: - "Чаго гэта ты сёння такі чырвоны?"

- А калі ты мяне белым бачыў?

Сяржант моўчкі вярнуў паперы і адыйшоў, не пажадаўшы нават шчаслівай дарогі.

## ЦІ ЛЁГКА БЫЦЬ СТАРШЫНЁЙ

Гэта было калі я працаваў старшынёй калгаса. Ездзіў я на старэнькім УАЗіку, які часценька мучыў мяне з запускам рухавіка. Аднойчы выходжу з дыспетчарскай, саджуся за руль, клацаю ключом, а рухавік маўчыць, не чыхне і не пыхне. Паклікаў аднаго з механізатараў: - "Іван, падсабі!"

Іван хапае завадную ручку і робіць некалькі штуршкоў. Рухавік не адзываецца. Тады Іван дае выхад усёй сваёй сіле і робіць амаль поўны абарот ручкай. Але і гэта нс дапамагае: рухавік маўчыць.

Іван шчыруе яшчэ некалькі хвілін ля капота машыны, потым выпрамляецца, змахвае пот з ілба і чуе:

- А ты думаў лёгка быць старшынёй?

Натоўп, які паспеў сабрацца вакол машыны, заходзіцца ад рогату.

*Г. Станкевіч*

"Кардон". Бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства Беларускай мовы ". № 10, травень 2000.
Рэдкалегія: Валянціна Гракун, Алесь Бабаед, Георгій Станкевіч. Тыраж 299. Выдадена пры падтрымцы Віцебскага філіяла "Фонда імя Льва Сапегі". Распаўсюджваецца бясплатна. Тэл. 2-26-93